**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства
«Дарога на Вільню плюс»,
пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**19 (579) 12 траўня 2011 года**

Кошт свабодны.

## Полацкі раён

# Сапраўдны фізік з душой лірыка

■ Станіслаў Раманчук.

**Хоць апошнім часам у нас прафесія настаўніка стала не вельмі прэстыжнай і аплочваемай, але па-ранейшаму не перавяліся педагогі з вялікай літары.**

Гэта пацвердзіў чарговы абласны этап нацыянальнага конкурса прафмайстэрства "Настаўнік года Беларусі – 2011". Пераканаўчая перамога на ім разам з каштоўным прызам – пральнай машынай – дасталася маладому настаўніку фізікі Полацкай СШ № 16 Дзмітрыю Шыцу. У абласным цэнтры, дзе свае прафесійныя якасці дэманстравалі 26 настаўнікаў з усіх куткоў Віцебшчыны, журы прывабілі адкрытасць, эрудыцыя і абаяльнасць Дзмітрыя. На ўроках таленавітага настаўніка дзецям сапраўды цікава аваладваць складаным прадметам, бо Дзмітрый жыве фізікай, можа расказваць аб ёй, як акцёр, паколькі займаецца ў мясцовым заслужаным тэатральным калектыве "Пілігрым". А яшчэ педагог цудоўна спявае, заняў адно з прызавых месцаў на абласным конкурсе песні. Невыпадкова яго адкрыты ўрок падчас конкурсу ў адной з віцебскіх гімназій і майстар-клас у дзяржуніверсітэце прайшлі на ўра. Дарэчы, акрамя Дзмітрыя, на абласным конкурсе настаўнікаў выдатна выступіла і філолаг з гімназіі суседняга Наваполацка Алена Ратомская, якая атрымала ўзнагароду за 2-е месца. Падчас летніх канікул абодва пераможцы конкурсу "Настаўнік года" будуць рыхтавацца да рэспубліканскага фіналу, які намечана правесці ў беларускай сталіцы напрыканцы верасня.

## Браслаўскі раён

# Абжыцца ў азёрным краі

■ Чэслаў Якубовіч

**На ўсю краіну і за яе межамі вядомы Браслаўскі раён як адзін з цэнтраў нацыянальнага турызму і цудоўнага адпачынку.**

У гэтай маляўнічай мясцовасці толькі буйных азёр больш за 250 і прадстаўлены многія ледніковыя форму рэльефу. Даўжыня берагавой лініі аднаго толькі возера Дрысвяты перавысіла 60 кіламетраў. Не дзіўна, што імкнуцца многія гараджане набыць жыллё ў азёрным краі. Але цяпер, каб абуладкавацца там, неабходна набыць зямлю на аўкцыёнах пад жыллёвае будаўніцтва. Толькі летась у раёне 20 разоў паспяхова праводзіліся такія аўкцыёны, а мясцовыя бюджэты сельсаветаў папоўніліся яшчэ на 129 млн. рублёў за права заключэння дагавораў арэнды зямлі. Зямельны надзел можна набыць і ў прыватную ўласнасць для далейшага будаўніцтва дома альбо асваення ўчастка пад іншыя мэты. Сёлета на Браслаўшчыне найбольш актыўна ў вобласці праводзіцца гэта дзейнасць. За некалькі падабраных свабодных участкаў удалося атрымаць амаль 60 млн. рублёў. Дзіўна, але ў суседніх Шаркоўшчынскім, Глыбоцкім і Докшыцкім раёнах чамусьці гэтым не займаюцца, не праводзяць аўкцыёнаў, хоць прапанаваць людзям ёсць што. Дарэчы, і выбар свабодных зямельных участкаў зараз вялікі, іх падабрана некалькі тысяч. А хутка пазнаёміцца з прыгожымі мясцінамі можна на адпаведным сайце. Калі гараджаніну штосьці прыглянецца, ён набудзе ўчастак без праблем пры наяўнасці грошай. Адзіная ўмова: на працягу года трэба пачынаць будоўлю, каб зямля не пуставала.

## Пастаўскі раён

# Прыклад для ўсёй краіны

■ Кастусь Александровіч

**Адной з галоўных праблем айчыннага спорту з'яўляецца недастаткова высокі ўзровень падрыхтоўкі спартыўнага рэзерву, у прыватнасці, у самай папулярнай гульні мільёнаў – футболе.**

Аднак прыемным выключэннем з гэтай тэндэнцыі сталі Паставы, дзе на базе прыватнага мэблевага цэнтра вось ужо 5 гадоў на еўрапейскім узроўні развіваецца футбольная школа ПМЦ. Яе лепшыя выхаванцы (U-17) сёлета выйшлі ў вышэйшую лігу юнацкага чэмпіянату Беларусі і сталі сапраўднай пагрозай для раней прызнаных аўтарытэтаў. Па ходзе першынства краіны пастаўчане пераканаўча перамаглі не абы каго, а рэзервістаў такіх моцных клубаў, як "БАТЭ" (Барысаў), ФК "Мінск" і "Нафтан" (Наваполацк). Зараз каманда ПМЦ у чэмпіянаце Беларусі на другім месцы, саступаючы толькі па розніцы мячоў славутаму "Дынама" (Мінск), базавай камандзе юніёрскай зборнай Беларусі. Аднак такі ўзлёт пастаўчан заканамерны, бо для юных футбалістаў створана належная база. З камандай працуе высокапрафесійны трэнерскі штаб на чале з вопытным спецыялістам, майстрам спорту Сяргеем Ясінскім. У сярэдзіне мая у райцэнтр для працы з хлопцамі на ўсё лета прыбылі два трэнеры з сусветна вядомага суперклуба "Мілан" (Італія), якія зоймуцца ўдасканаленнем тэхнікі і паляпшэннем хуткасна-тактычных дзеянняў. Дарэчы, асноўны падрыхтоўчы збор каманда ПМЦ правяла на працягу паўмесяца на сонечных палях Італіі і таму зараз так паспяхова выступае.




# Лічба нумара

**1904** столькі населеных пунктаў у Беларусі, па дадзеных дэпартамента па ліквідацыі наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, па-ранейшаму знаходзяцца ў зонах радыёактыўнага заражэння мясцовасці, хоць з моманту трагедыі мінула чвэрць стагоддзя. Напэўна, і сёння далёка не кожны беларус ведае, што амаль 15 % тэрыторыі краіны – забруджаныя землі, і жыць у такіх пацярпелых рэгіёнах– значыць падвяргаць сваё здароўе пэўнай рызыцы. Таму там неабходна перыядычна праводзіць радыяцыйны кантроль мясцовасці.

Праўда, з цягам часу жыццё ўсё ж бярэ верх над гэтай бядой і смерцю. За прайшоўшыя 25 гадоў плошча беларускіх зямель, забруджаных цэзіем, скарацілася ў 1,6 разоў (было ў нас забруджана 23 % тэрыторыі). Радыяцыйная абстаноўка пакрыху паляпшаецца ў выніку натуральнага распаду ізатопаў, прырода сама ачышчаецца ад шкодных рэчываў. Але пільнасці губляць не трэба, паколькі зоны радыёактыўнага забруджання ёсць паўсюдна ва ўсіх абласцях Беларусі, уключаючы Віцебскую. Зараз у гэтых зонах пражывае больш за 1,1 млн. чалавек, што на 712 тысяч менш,чым было ў 1992 годзе.

Увогуле, нашай краіне прыйшлося затраціць на ліквідацыю наступстваў той чорнай красавіцкай ночы 1986 года больш за 20 млрд. долараў. У першыя ж дні і месяцы пасля катастрофы прыйшлося адсяліць больш за 137 тысяч беларусаў. Неўзабаве яшчэ амаль 200 тысяч нашых суайчыннікаў самі пакінулі небяспечную зону і пераехалі жыць у іншыя месцы, а некаторыя нават за мяжу. Калі ж здарылася гэта трагедыя ў гісторыі Беларусі, каля паўміліёна савецкіх людзей адразу былі непасрэдна прыцягнуты да ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. З іх больш як двумстам тысячам прыйшлося датэрмінова пакінуць гэты свет ад атрыманых доз радыяцыі, нябачнай смерці.

Канешне, і праз чвэрць стагоддзя маштабы бяды адчувальныя і, як і раней, неабходна ўзяць пад кантроль значныя тэрыторыі, каб знізіць урон здароўю людзей, распрабаваць рэабілітаваць землі, якія пацярпелі ад заражэння. У Беларусі прыйшлося найперш у забруджаных "чарнобыльскіх" раёнах Гомельскай і Магілёўскай абласцей праклaсці газаправоды і вадаправоды. У Гомелі ўжо 8 гадоў дзейнічае створаны Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр радыяцыйнай медыцыны. Штогод прыходзіцца больш за 200 тысяч дзяцей з гэтых зон бясплатна аздараўліваць у санаторыях і пансіянатах..

Аднак спецыялісты б'юць трывогу, бо на забруджаных тэрыторыях па-ранейшаму высокія дозы радыяцыі назапашваюць дзеці з сацыяльна неабароненых сем'яў. Іх бацькі п'юць, хлопчыкі і дзяўчынкі з такіх сем'яў дрэнна харчуюцца, бо гора-бацькі не купляюць чыстыя прадукты ў магазінах. А яшчэ там нельга людзям хадзіць у лес па грыбы-ягады, лавіць рыбу, неабходна іх папярэдне правяраць на радыёактыўнасць перад абедам. Пажадана і астатнім беларусам перыядычна звяртацца да ўрачоў нават на чыстых тэрыторыях, бо зараз у арганізмах практычна кожнага чалавека прысутнічае пэўная невялікая доза радыяцыі разам з прадуктамі харчавання (радыёнукліды прысутнічаюць ва ўсіх без выключэння прадуктах у межах нормы).

Як паказваюць нядаўнія трагічныя падзеі ў Японіі, нават самыя цывілізаваныя дзяржавы свету не застрахаваны ад падобных бедаў. Не лішняе будзе кожнаму з нас не губляць пільнасці, сачыць за станам свайго здароўя і мець у дамашняй аптэчцы элементарны ёд. Цяпер кіраўніцтвам краіны канчаткова прынята рашэнне пачаць узводзіць паблізу Астраўца ў сейсмічна небяспечнай зоне айчынную атамную станцыю. Гэта грандыёзная будоўля запатрабуе вялізных фінансавых затрат.

Сімвалічная і рэальная рана пасля Чарнобыля і праз 25 гадоў усё яшчэ не загаілася, яна баліць. Большасць чарнобыльцаў прыйшлося пазбавіць ільгот і кампенсацый і направіць гэтыя сродкі на медабсталяванне бальніц і паліклінік гэтай зоны. Страшная аварыя ўжо зачапіла нас сваім чорным крылом, таму на першай беларускай АЭС проста жыццёва неабходна закласці самы сучасны механізм ядзернай бяспекі праекта, якасці падрыхтоўкі кадраў, якім прыйдзецца працаваць у галіне ядзернай энергетыкі.

## Надвор'е ў Глыбокім

www.rp5ru

| | чацвер 12.05.11 | | | | пятн. 13.05.11 | | | | сб. 14.05.11 | | | | нядз. 15.05.11 | | | | пн.16.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература, °С | +10 | +14 | +19 | +16 | +11 | +15 | +20 | +14 | +7 | +10 | +17 | +14 | +6 | +13 | +14 | +12 | +8 | +10 | +15 |
| Ціск, мм | 752 | 751 | 749 | 747 | 747 | 746 | 743 | 742 | 745 | 746 | 745 | 746 | 746 | 746 | 745 | 744 | 745 | 747 | 747 |
| Вільготнасць, % | 77 | 71 | 42 | 67 | 79 | 72 | 38 | 78 | 80 | 66 | 39 | 54 | 87 | 64 | 62 | 81 | 94 | 88 | 39 |
| Вецер м/сек | Ю-В 2 | Ю 2 | З 3 | Ю-З 4 | Ю 4 | Ю-З 4 | Ю 6 | З 8 | З 8 | З 9 | С-З 9 | З 3 | Ю 3 | Ю 4 | Ю-З 2 | Ю-З 1 | С-З 4 | С-З 4 | С-З 6 |
| | | 05:07 | 21:05 | | | 05:06 | 21:07 | | | 05:04 | 21:09 | | | 05:02 | 21:11 | | | 05:00 | 21:12 |

## Дзень за днём

**Хоць і не было ў Расін прычын адмаўляць Беларусі ў атрыманні чарговага крэдыту, але аператыўнае вырашэнне пытання зацягнулася. Гэтыя грошы пойдуць у золатавалютныя рэзервы і не не з'явяцца для продажы ў абменніках. Шэраг экспертаў прагназуюць, што сітуацыя на валютным рынку краіны можа стабілізавацца ў лепшым выпадку праз 3-6 месяцаў. Мінфін Беларусі афіцыйна пацвердзіў скарачэнне сёлета расходаў дзяржбюджэту на 1,7 трлн. рублёў. Амаль 15 % тэрыторыі краіны і праз чвэрць стагоддзя пасля катастрофы на Чарнобыльскай АЭС застаецца забруджанай цэзіем-127.**

# Важнейшыя навіны свету

**Куба.** Пасля адмены картачнай сістэмы і пачатку рэформ без работы застануцца каля 1 млн. кубінцаў, даўгі краіны перавысілі 17,8 млрд. $, яна апынулася на мяжы дэфолту.

**Украіна.** МЗС краіны крайне абурыўся "беспрэцэндэнта некарэктнымі" выказваннямі кіраўніка суседняй Беларусі і назваў іх "скокамі на касцях", адходам ад норм зносін.

**Афганістан.** Адразу 8 ваеннаслужачых войскаў НАТА і замежны кантратнік загінулі ў перастрэлцы ў міжнародным аэрапорце Кабула з пілотам афганскай арміі, палкоўнікам.

**Расія**. Прэм'ер-міністр У. Пуцін зноў выступіў з рэзкай крытыкай ваенных дзеянняў заходніх краін супраць Лівіі і спроб фізічна знішчыць лівійскага правадыра М. Кадафі.

**ЗША**. У поўнай беднасці на 70-м годзе жыцця памерла ўнучка Альберта Эйнштэйна Эвелін, вучоны не ладзіў са сваёй сям'ёй і пазбавіў дзяцей і ўнікаў багатай спадчыны.

**Сірыя.** Свет усё больш трывожыць пагаршэнне сітуацыі ў краіне, дзе ваенныя і паліцыя жорстка сталі падаўляць мірныя акцыі пратэсту і забілі каля паўтысячы чалавек.

**Украіна.** Глава МЗС К. Грышчанка пацвердзіў, што краіна будзе супрацоўнічаць з Мытным саюзам РФ, РБ і Казахстана, але не ўступіць у яго, не планы – еўраінтэграцыя.

**Венесуэла.** Дзякуючы росту цэн на нафту з 1 мая ў краіне павысяць у два этапы на 25 % мінімальную зарплату венесуэльцам (цяпер 360 $), пакуль і ў сталіцы не ўсюды тратуары.

**Расія.** Міністр абароны РФ паабяцаў хутка паставіць Беларусі новыя зенітна-ракетныя комплексы С-300, восенню ваенныя дзвюх краін правядуць сумесныя буйныя вучэнні.

**Індыя.** За некалькі дзён у Гімалаях разбіліся 2 верталёты: спачатку МІ-17 (загінула 17 чалавек, 6 выжылі), затым ваенны "Дхрув" індыйскай зборкі, загінулі ўсе 4 члены экіпажа.

**Егіпет.** Суд загадаў знішчыць помнікі і партрэты экс-прэзідэнта Хосні Мубарака, членаў ягонай сям'і, сцерці з памяці па ўсёй краіне ненавісныя сімвалы тыраніі і карупцыі.

**Ізраіль.** У клініцы паблізу Тэль-Авіва пасля цяжкай хваробы раку лёгкіх памёр 76-гадовы вядомы расійскі акцёр і рэжысёр Міхаіл Казакоў, яго цела перавезлі для пахавання ў Расіі.

**Англія.** Больш 2 мільярдаў жыхароў свету глядзелі альбо слухалі ў прамым эфіры па радыё цырымонію вяселля ў Лондане наследнага прынца Уільяма і Кейт Міддлтон.

**Японія.** Позна вечарам у сталіцы краіны Токіо зноў трэсла будынкі з-за чарговага моцнага землятрусу сілай 6,3 балы, яго эпіцэнтр знаходзіўся на адлегласці 64 км ад мегаполіса.

**Расія.** Урачы забаранілі вядомаму спеваку Валерыю Лявонц'еву рабіць пластычныя аперацыі твара ў бліжэйшыя некалькі гадоў, з-за іх артысту пагражае нават слепата.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Нароўля.** Кіраўнік РБ абазваў прэзідэнта Еўракамісіі Жазе Барозу "казлом", ЕС – "проста нягоднікамі" і абвінаваціў кіраўніцтва Украіны на чале з В. Януковічам у "вашывасці".

**Мінск.** Міністэрства інфармацыі РБ падала іск у Вышэйшы гаспадарчы суд Беларусі аб спыненні выпуску двух вядучых незалежных газет краіны "Народная воля" і "Наша ніва".

**Гомель.** Начальнік упраўлення аблвыканкама Ігар Байдак заявіў, што зоны адсялення раёнаў, пацярпелых ад Чарнобыльскай АЭС, назаўсёды "мёртвыя", сюды нельга ездзіць.

**Мінск.** Шэраг суддзяў, якія вынеслі абвінаваўчыя прыгаворы ўдзельнікам падзей на плошчы і сталі неўязнымі ў ЕС, атрымалі кваліфікацыйныя павышэнні па службе.

**Барысаў.** У горадзе пачалі выпускаць расійскія аўтобусы ПАЗ малога і сярэдняга класу, школьныя сумесна з "Групай ГАЗ" і кампаніяй-дыстрыб'ютэрам "РусАўтаПрам".

**Мінск.** У жылых мікрараёнах беларускай сталіцы пачалі паэтапнае адключэнне гарачага водазабеспячэння для падрыхтоўкі існуючых цеплосетак да работы ў зімовы перыяд.

**Брэст.** Па 10-12 гадзін прыходзіцца жадаючым трапіць у Польшчу чакаць перасячэння граніцы на пагранпераходзе, чэргі машын расцягнуліся на некалькі кіламетраў.

**Мінск.** Папулярнага тэлевядучага Сяргея Дарафеева звольнілі з працы на тэлеканале АНТ, пасля прэзідэнцкіх выбараў спачатку закрылі яго праўдзівую праграму, ток-шоу "Выбар".

**Гродна.** Новы кіраўнік вобласці Сямён Шапіра стаў часта выязджаць без папярэджання ў самыя аддаленыя рэгёны і, не прадстаўляючыся, цікавіцца жыццём народа і праблемамі.

**Мінск.** 3 кітайскіх камплектуючых на заводзе "Прамсувязь" зноў пачалі выпуск мабільных тэлефонаў "Еўратэф" коштам 100 $ для айчынных дзяржпрадпрыемстваў.

**Брэст.** Пры спробе абмену 5 $ міліцыя затрымала каля білетных кас чыгуначнага вакзала беспрацоўных беларуса і 48-гадовага ўкраінца, валюту канфіскавалі, наклалі яшчэ штраф.

**Мінск.** Чацвёртым па ліку старшынёй айчыннай федэрацыі футбола быў абраны 41-гадовы віцэ-прэм'ер-рынчачнік Сяргей Румас, ён цікавіцца спортам, выхоўвае 4-х сыноў.

**Баранавічы.** Самагубствам скончыла жыццё 18-гадовая навучэнца мясцовага ліцэя, яна скокнула насмерць з акна на 8-м паверсе свайго дома пасля разрыву з каханым хлопцам.

**Барысаў.** Галоўны трэнер ФК "БАТЭ" В. Ганчарэнка заявіў, што скарачэнне вышэйшай лігі да 12 каманд карысці ёй не прынесла, стала шмат закрытых, нецікавых матчаў.

**Мінск.** На закрытым паказе ў пасольстве Літвы ў РБ журналісты першымі ўбачылі забаронены расійскі фільм А. Міндадзе пра Чарнобыльскую трагедыю "У суботу".

## Курс Нацбанка будзе дзейнічаць пры куплі валюты па паважлівых чынніках




■ TUT.BY

**Шматдзённыя чэргі за валютай выклікаюць здзіўленне, абурэнне і скаргі грамадзян, у якіх зрываюцца адпачынкі і камандзіроўкі, адкладаюцца пакупкі кватэр і аўтамабіляў.**

Але ў асобных выпадках валюта патрэбна на неадкладныя патрэбы: лячэнне, аплату навучання, выезд за мяжу ў сувязі з хваробай ці смерцю сваякоў. Па даручэнні Нацбанка, найбуйнейшы дзяржбанк краіны Беларусбанк цяпер распрацоўвае парадак набыцця валюты на такія патрэбы.

Пэўны пералік акалічнасцяў, у якіх можна разлічваць на куплю валюты ў Беларусбанку па афіцыйным курсе (курс Нацбанка плюс-мінус 2%, розніца з коштам чорнага рынку - не меней 30%) цяпер распрацоўваецца. У Беларусбанку запэўнілі, што даручэнне Нацбанка ўлічыць усе "сацыяльна значныя" выпадкі, калі грамадзяніну можа спатрэбіцца замежная валюта, будзе выканана.

Як растлумачылі TUT.BY у банку, па заяўках мяркуецца рэалізоўваць тую валюту, якую акумулюе Беларусбанк у сваіх абменных пунктах на пагранпераходах. Як раней пісаў "Штодзённік", нягледзячы на патрабаванне Нацбанка пра абавязковы продаж насельніцтву валюты, якая здаецца ў касы банкаў, менавіта прымежныя абменнікі Беларусбанка ў сярэдзіне сакавіка перасталі прадаваць валюту, спасылаючыся на адпаведныя распараджэнні Нацбанка. Зараз стала зразумела, што дэфіцытную валюту вырашылі накіраваць на рашэнне "сацыяльна значных" праблем насельніцтва. Наколькі і які аб'ём валюты будзе адпавядаць запатрабаванням беларусаў - пакуль пытанне.

Для таго, каб прэтэндаваць на куплю валюты па курсе Нацбанка, прыйдзецца падаць у Беларусбанк заяўку і прадставіць дакументальнае пацверджанне сваіх "сацыяльна значных" акалічнасцяў.

У прынцыпе, і да распрацоўкі парадку набыцця валюты на сацыяльна значныя патрэбы насельніцтва пытанні вырашаліся падобным чынам. Чытачы TUT.BY, якія патрабуюць у пакупках значных сум валюты, да прыкладу, на лячэнне, падзяліліся адзін з адным досведам: "Трэба пісаць заяву галоўнаму начальніку банка з усім пакетам дакументаў: рахунак на лячэнне і г.д., каб дазволілі нам у касе банка купіць на беларускія рублі даляры". Канчатковае рашэнне - за банкам.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пасля атрымання прэміі ўрада РБ за дасягненні ў сферы якасці за 2010 год на мясцовым мясакамбінаце прайшла рэспубліканская нарада работнікаў галіны.

**Верхнядзвінск.** У райцэнтры пачалі актыўна рыхтавацца да святкавання 625-годдзя ўтварэння горада, асноўныя масавыя ўрачыстасці пройдуць у чэрвені.

**Полацк.** На малочным камбінаце наладзілі выпуск жывога малака з доўгім тэрмінам захоўвання і разліў яго ў пэтбутэлькі, перааснашчана і сушка гатовай прадукцыі.

**Орша.** Пад гандлёвай маркай "Сырны двор" на мясцовым сырзаводзе пачалі выпускаць плаўленыя сыры-батончыкі і каўбасныя вэнджаныя сыры ў сучаснай упакоўцы слайсы.

**Мёры.** На судзе ў Мінску над удзельнікамі падзей 19 снежня студэнт БДУІР з райцэнтра Уладзімір Яроменак цалкам прызнаў сваю віну ў адрозненне ад іншых падсудных.

**Лёзна.** Адразу чацвёра малых дзетак падарваліся на снарадзе ў вёсцы Пнева, яны гулялі з боепрыпасамі і справакавалі выбух, загінуў самы старэйшы – 10-гадовы хлопчык.

**Лепель.** У сваёй радні прыйдзецца пажыць сям'і з вёскі Бабча, якая засталася без хаты пасля пажару, які ўстроіў 6-гадовы сын, ён гуляў з запалкамі і падпальваў імі чарвякоў у хлеве.

**Бягомль.** Гарадскі пасёлак стаў пераможцам рэспубліканскага агляду-конкурсу санітарнага стану і добраўпарадкавання населеных пунктаў за мінулы 2010 год.

**Ноўка.** 3 дапамогай фізічнага факультэта Віцебскага дзяржуніверсітэта ў мясцовай СШ адкрылі планетарый на 30 месц на даху будынка, тут школьнікаў вучаць астраноміі.

**Глыбокае.** Народны тэатр мініяцюр з Падсвілля "Ідучыя на смех" стаў пераможцам абласнога агляду-конкурсу установ культуры "Тэатральныя далягляды вёскі".

**Докшыцы.** Нядоўга радаваўся 43-гадовы калгаснік, што яму ўдалося непрыкметна з незачыненага складу ўкрасці 364 кг бульбы: міліцыя справу хутка раскрыла.

**Наваполацк.** У аўтааварыі трагічна загінуў ураджэнец Верхнядзвінскага раёна 22-гадовы штангіст, прызёр чэмпіянатаў свету Сяргей Лагун, зборная РБ страціла суператлета.

**Паставы.** 3 мэтай аптымізацыі бюджэтных расходаў у раёне сёлета закрыюць яшчэ 4 малакамплектныя школы, 2 установы аховы здароўя і 5 устаноў культуры на вёсцы.

**Верхнядзвінск.** У райцэнтры вырашылі стварыць сёлета свой міні-заапарк і замяніць ртутныя лямпы вулічнага асвятлення на сучасныя дыёдныя энергазберагальныя.

**Полацк.** Міністэрства сувязі РБ выпусціла тыражом 10 тысяч экзэмпляраў у абарот новую памятную паштовую марку "850-годдзе Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай".

*Служба інфармацыі "ВГ".*

■ Уладзімір Скрабатун

# Галоўнае, каб памяталі!

**У самай крывавай вайне XX стагоддзя Беларусь страціла 1,6 млн жыхароў. Тэрытарыяльныя набыткі азмрочыла страта Вільні й Беластоку. Аднак самае галоўнае — беларусы захаваліся як нацыя. У выпадку перамогі нацыстаў нас фізічна вынішчылі б.**

Для многіх нацый Заходняй Еўропы Другая сусветная стала як бы паўторам Першай. Для беларусаў Другая сусветная вайна была канцом і пачаткам свету.

З 9,2 мільёнаў жыхароў на 1939 год да 1945-га загінулі каля 1,6 млн. Сувымерныя страты насельніцтва, акрамя Беларусі, зазнала толькі Польшча.

Нацысты на ўсходзе Еўропы, які яны разлічвалі каланізаваць, зверствавалі так, як свет яшчэ не бачыў.

Каля 600 тысяч палонных вайскоўцаў замарылі ў Беларусі голадам на вачах у застрашанаганасельніцтва. Дзясяткі вёсак былі спаленыя з людзьмі жыўцом. Каля 600 000 габрэяў былі замардаваныя ад малога да старога толькі за сваю нацыянальнасць. Сотні тысяч беларусаў загінулі ў савецкім войску, якое не лічылася з людскімі ахвярамі.

Сярод гэтага азвярэння, насуперак яму мільёны людзей праявілі свае найлепшыя якасці. Тысячы людзей дапамагалі хавацца палонным, уцекачам, камуністам і габрэям, на якіх палявалі немцы. Тысячы іншых самаарганізоўваліся для выжывання і захоўвалі нацыянальную і рэлігійную традыцыю. Беларусы, сярод якіх будучы народны пісьменнік Васіль Быкаў, мужна ваявалі ў складзе Савецкай Арміі. Дзясяткі тысяч беларусаў пад акупацыяй далучыліся да руху супраціву. У вялікіх беларускіх лясах утварыліся актыўныя партызанскія злучэнні.

Дзякуючы перамозе над гітлераўцамі, беларусы захаваліся як нацыя. У выпадку перамогі нацыстаў нас фізічна вынішчылі б. Бо «жыццёвую прастору» на ўсход ад Нямеччыны расісты прызначалі для сваёй каланізацыі.

Беларусь была сярод пераможцаў, заснавальнікаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Жахі і навука з той вайны знайшлі сваё адлюстраванне ў велічных творах Быкава, Брыля, Адамовіча, Савіцкага, Клімава.



Непрыманне вайны як сродку вырашэння канфліктаў, непрыманне нацызму сталі фундаментальнымі ў светапоглядзе беларусаў.

На сённяшні дзень у Глыбоцкім раёне пражывае 147 ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, а таксама тых, хто прыроўнены да гэтай катэгорыі – вязняў канцлагераў і работнікаў тылу.

Глыбоччына ўрачыста адзначыла 66-я ўгодкі вялікай Перамогі. Можа, і не так пампезна, як мінулагодняе святкаванне, – усё ж быў юбілей. Галоўнае, каб свята было ў сэрцах, не забывалі ветэраў і памяталі тых, хто аддаў сваё маладое жыццё за свабоду нашага народа.



Ветэраны Вялікай Айчыннай вайны.

■ Уладзімір Скрабатун

## Сяргей Рублеўскі: «Герб сцяну не сапсуе!»

6 траўня ў Глыбоцкім гарадскім цэнтры культуры адкрылася выстава «Геральдычны вянок Віцебшчыны». Гэта выстава сучасных гербаў гарадоў і мястэчак Віцебскай вобласці. Выстава прывандравала ў Глыбокае з Полацка і праводзіцца ў гарадах, якія маюць Дзяржаўныя занальныя архівы: Віцебск, Орша, Полацк і Глыбокае. З Глыбокага выстава паедзе ў Оршу.

На адкрыцці выставы прысутнічалі: Нэля Аляксандраўна Баравік, дырэктар Глыбоцкага дзяржаўнага занальнага архіва, іншыя супрацоўнікі архіва, работнікі культуры, краязнаўцы. Усяго – блізу 40 чалавек.

Аб сучасных гербах Віцебскай вобласці вельмі цікава распавёў – і, дарэчы, на цудоўнай беларускай мове – Сяргей Васільевіч Рублеўскі, начальнік аддзела па архівах і справаводстве галоўнага ўпраўлення юстыцыі Віцебскага аблвыканкама.

– Мы тут нездарма! – кажа спадар Рублеўскі. Наш аддзел па архівах і справаводстве займаецца геральдыкай, зацвярджэннем геральдычных сімвалаў нашых рэгіёнаў. Раней як было? Вырашыў нейкі райцэнтр мець свой герб – пасядзелі, падумалі, намалявалі, нейкія гістарычныя моманты ўлічылі, ухвалілі, а сесія райсавета зацвердзіла. Ёсць герб! Прывезлі ў наш дэпартамент. І герб заносіўся ў дзяржаўную гербавую матрыку.

Цяпер усё інакш! Як і ў іншых краінах свету – зацвярджэнне гербаў ёсць прывілея высокіх правіцеляў. У герцагстве – герцаг, у царстве – цар…

З 2002 года была створаная Геральдычная Рада пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, і сёння ўсе гербы зацвярджае кіраўнік нашай дзяржавы. Падпісваецца адпаведны ўказ – і герб зацвярджаецца. Вязуць на зацвярджэнне некалькі гербаў, напрыклад, сем… Ну не будзе ж Прэзідэнт зацвярджаць адзін герб, хай бы і вашага Падсвілля! Несур'ёзна!

Гэтыя 37 гербаў, якія тут прадстаўленыя на выставе, былі зацверджаныя ў выніку трох указаў. Тут яшчэ няма пяці новых гербаў, якія зацверджаны напрыканцы лютага г.г. Цяпер у Віцебскай вобласці – 42 гербы адміністрацыйна-тэрытарыяльных цэнтраў. Да гэтага было 37, і яны тут прадстаўленыя.

– Даходзіць ледзьве не да "сацыялістычнага спаборніцтва", – жартуе спадар Рублеўскі. У Брэсцкай вобласці – 38 гербаў, а ў нас – 37! Божухны! Як гэта ў нас меней? Як жа будзем жыць! Ну, дык мы павезлі яшчэ пяць! Прыязджаем – і брэстчане яшчэ пяць новых прывезлі!!! Нам пяць зацвердзілі! Мы былі першымі, а брэстчане – пасля нас. Не ведаю, ці ўсё ім зацвердзілі. Кажуць – чатыры. То ў нас у кожнага па 42.

Большасць гербаў Віцебшчыны носіць гістарычны характар. Ну, напрыклад, маёй радзімы Лепельшчыны. Герб Лепеля – узброены вершнік. Гэта стары герб. Яго ўзнавілі, па новай намалявалі.



Прамаўляе Сяргей Васільевіч Рублеўскі

Я вам скажу: гербамі цяжка нешта сапсаваць! Гэта гонар жыць пад сваім гербам, пад сваім сцягам. Выйсці з імі на свята! Вось у Віцебску як заведзена: па цэнтры – сцяг Рэспублікі Беларусь, злева – сцяг Віцебскай вобласці, справа – сцяг Віцебска. Пучок з трох сцягоў. Так – на ўсіх адміністрацыйных будынках. Цудоўна! Прыгожа!

Наш кіраўнік вобласці надае геральдычнай сімволіцы належную ўвагу. Згодна з яго распараджэннем, на ўсіх галоўных магістралях нашы раёны пазначаюць свае тэрыторыі гербамі. А раней што было? Серп і молат. І дастаткова!

Гербы – візітная картка. Гербы пайшлі ад рыцараў. Каб ведаць, хто гэты рыцар, ён на шчыце і маляваў свой сімвал, які апавядаў пра яго паходы, сутнасць.

Цяпер едзеш – Бешанковіцкі раён – "Шчаслівага шляху!" і герб, пад'язджаеш да мяжы Лепельскага раёна – тое самае, пад'язджаеш да мяжы вобласці – герб Віцебскай вобласці. І, дарэчы, да зацвярджэння герба Віцебскай вобласці я меў наўпростае дачыненне ў 2009 годзе.

Пра рыцараў распавядалі герольды, інакш – глашатыя. Яны абвяшчалі рыцараў, апавядалі пра гербы. Рыцараў ставала ўсё больш і больш, і гербаў усё больш і больш. Пачалі запісваць гербы і маляваць, складаць кніжкі – гербоўнікі. Першы гербоўнік пазначаны 1300-м годам у Германіі і захоўваецца ў адным з універсітэтаў.



Герб Віцебскай вобласці.

І мы працягваем іх пачэсную справу – выдалі кніжку, адным з аўтараў якой з'яўляюся і я, а астатнія – маё мінскае начальства з Дэпартамента па архівах і справаводстве, сярод якіх – дырэктар і галоўны спецыяліст Марыя Міхайлаўна Елінская. У кнігу ўвайшлі і гербы, якія тут на выставе прадстаўленыя.

Геральдыка – старажытная навука, цывілізацыйнае дасягненне Еўропы, адтуль і пайшло. Да нас паступова прыйшло праз Магдэбургскае права. Ідзе і будзе ісці.

Гербы Віцебскай вобласці – адметныя! Гляньце, колькі тут блакітнага колеру! Ну дык – Віцебшчына! Азёраў шмат! На чатырох гербах – рачныя караблі: Полацк, Бешанковічы, Дзісна, Друя. Чаму? Таму што пралягаў гандлёвы шлях "з варагаў у грэкі".

Шмат тут на выставе гістарычных гербаў. Вось – чорны заяц! Што такое? Хіба зайцы бываюць неграмі? Аказваецца, вадзіліся некалі ў лясах каля г.п. Копысі і такія зайцы.

Сярод гербаў – герб вёскі Пераброддзе ў Мёрскім раёне, адзіная вёска вобласці, якая мае свой герб. Старажытны герб. На ім – манаграма польскага караля. Кажуць, ехаў кароль на Пераброддзе… Але наўпрост далей не праехаць. Азёры. А жылі там толькі бедныя рыбакі. Ну, не гожа каралю даваць вялікі круг, абы аб'ехаць паселішча! Дык людзі там былі яшчэ й ліслівыя – хуценька насыпалі брод. Кароль жа паехаў наўпрост праз Пераброддзе. Палюбіў кароль гэтых людзей, зямлі нарэзаў. Вось так і з'явіўся герб Пераброддзя.

Я хачу, каб гэтая выстава яшчэ пабыла ў вас ў Глыбокім. Патрыятызм пачынаецца не паводле ўказу зверху, а з гісторыі нашых вёсак, нашай малой радзімы і нашых гербаў.

# Фэст Найсвяцейшай Марыі Панны Кароны Польскай

■ **Кс. Віктар Місевіч,**
Фота: **Сяргей Сінкевіч**

**З мая ў Порплішчах адбыўся парафіяльны фэст. Назва свята змяшчае ў сабе даволі рэдкі для беларускай зямлі тытул Маці Божай. Несумненна, гэта звязана з гістарычным мінулым Порплішча і ваколіц.**

Словы прывітання скіраваў да вернікаў пробашч кс. Юрый Бараўнёў. Ён падзякаваў усім за прысутнасць і запрасіў да супольнай малітвы. Св. Імшу цэлебраваў кс. Віктар Місевіч. Ён таксама прамовіў гамілію слухачам. У ёй святар разважаў над істотным момантам гісторыі збаўлення – Звеставаннем.

Эўхарыстычная працэсія вакол касцёла з фігурай уваскросшага Хрыста стала велічным знакам уваскрашэння Касцёла на порплішчанскай зямлі. У працэсіі прынялі ўдзел дарослыя і дзеці. Гукі гімна "Цябе, Бога, праслаўляем" абвесцілі наваколлю пра святочную радасць вернікаў парафіі Найсвяцейшай Марыі Панны Кароны Польскай у Порплішчы.

# Чарнобыль - вечны боль

■ **В.А. Забела,**
*заг. аддзяленнем сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі ТЦСАН, тэл.: 2-27-25*

Да 25-годдзя Чарнобыльскай трагедыі Тэрытарыяльным цэнтрам сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва былі праведзены інфармацыйныя мерапрыемствы, прысвечаныя дню памяці гэтай страшнай катастрофы. Спецыялістамі аддзялення дзённага знаходжання для інвалідаў правялі для наведвальнікаў аддзялення цікавы пазнавальны занятак, на якім інвалідам аддзялення было даступна расказана пра трагедыю на Чарнобыльскай АЭС, якая адбылася 25 гадоў назад

Спецыялісты аддзялення сацыяльнай адаптацыі і рэабілітацыі цэнтра Марціновіч Д.А. і Шарабайка Н.В. правялі сустрэчу для навучэнцаў СШ №2 са Шчэбетам В.Н., які быў удзельнікам наземнага выпрабавання атамнай бомбы на палігоне ў Тоцку пад Арэнбургам у 1954 годзе. Віктар Мікалаевіч знаходзіўся за восем кіламетраў ад эпіцэнтра выбуху і бачыў атамны «грыб», які пераліваўся рознакаляровымі бліскаўкамі. Сваімі вачамі Шчэбет В.Н. бачыў трагедыю створанага чалавецтвам атама і адчуў на сабе яго наступствы. У цікавым аповедзе ён данёс маладому пакаленню падрабязнасці жудасных падзей выпрабавання атамнай бомбы, і вучні самі прыйшлі да высновы, што трагедыя Чарнобыльскай АЭС – гэта трагедыя для ўсіх людзей на планеце, і наша задача – прадухіленне гэтай беды ў будучыні, таму мы ўсе павінны ведаць як мага больш пра гэтую праблему.

*Цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва.*

# Цягніком з Мінска да Вільні цяпер роўна за тры гадзіны

**З 29 мая даехаць цягніком з Мінска да Вільні цяпер можна будзе роўна за тры гадзіны.**

Раней працягласць маршруту складала чатыры з паловай гадзіны раніцай і чатыры гадзіны вечарам. Цяпер Беларуская чыгунка ўводзіць новы маршрут. Раніцай цягнік з Мінска да Вільні будзе адпраўляцца ў 7:45 і прыбываць у Вільню ў 10:45 (раней быў цягнік Магілёў -- Вільня 6:26 -- 11:08), увечары цягнік будзе адпраўляцца ў 18:49 і прыбываць у Вільню ў 21:49.

Да Гудагая цягнік дамчыць за адну гадзіну 50 хвілін, а працягласць праходжання мытнага пераходу Гудагай -- Кяна цяпер складзе 34 хвіліны.

Кошт білета: 30 560 рублёў (агульны вагон), 44 340 (плацкарт), 69 тыс. -- купэ.

З Вільні цягнікі будуць адпраўляцца ў 07:05 (прыбыццё ў Мінск у 10:05), і 19:05 (прыбыццё ў 22:05).

*nn.by*

# Дзяржаўную мяжу Беларусі ахоўваюць конныя памежнікі

■ **Яна Ільіна**

**На заставе "Савейкі" ў раёне возера Асвейскае ў Верхнядзвінскім раёне на мяжы з Латвіяй напярэдадні прайшла незвычайная ўрачыстая цырымонія – да аховы дзяржаўнай мяжы тут прыступіў першы конны нарад Полацкага пагранічнага атрада.**

Як паведамлялася раней, Дзяржпагранкамітэт пачаў эксперымент, у адпаведнасці з якім на прыгранічных тэрыторыях, дзе знаходзяцца вядомыя гістарычныя і экалагічныя аб'екты, ахова мяжы будзе весціся ў тым ліку і коннымі нарадамі. Рашэнне аб адраджэнні традыцыі патрулявання мяжы на конях было прынята Дзяржпагранкамітэтам у пачатку 2011 года. Эксперымент будзе праходзіць на працягу двух гадоў. Удзел у ім прымаюць па адной заставе на участках Гродзенскай пагрангрупы і Полацкага пагранатрада.

На заставе "Савейкі" абсталявана стайня. Памежнікаў на працягу некалькіх месяцаў вучылі верхавой яздзе ў Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі коннага спорту і конегадоўлі і ў конна-спартыўнай школе, якая працуе ў сельгаспрадпрыемстве "Асвейскае". Кандыдатаў у конны нарад адбіралі з ліку прызыўнікоў з сяла і тых, у каго ёсць ветэрынарная або заатэхнічная адукацыя.

*Паводле БелТА.*

# Мінсувязі падтрымала прапанову ТБМ аб выпуску паштовых марак з відарысамі замкаў Беларусі

**Міністэрства сувязі і інфарматызацыі падтрымала прапанову Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» аб выпуску паштовых марак з відарысамі замкаў Беларусі, паведаміў БелаПАН старшыня ТБМ Алег Трусаў.**

На свой зварот у Мінсувязі ён атрымаў адказ ад намесніка міністра Мікалая Струкава, які сказаў, што РУП «Белпошта» сёлета запланавала выпуск новай стандартнай серыі паштовых марак з выявамі помнікаў айчыннай архітэктуры. Прычым у серыі з 12 знакаў паштовай аплаты тры паштовыя маркі будуць прысвечаныя Мірскаму, Лідскаму (абодва Гродзенская вобласць) і Нясвіжскаму (Мінская вобласць) замкам, гаворыцца ў адказе.

Трусаў выказаў задавальненне тым, што Мінсувязі падтрымала прапанову ТБМ і відарысы самых вядомых помнікаў айчыннага абарончага дойлідства з'явяцца на беларускіх марках стандартнага выпуску, якія друкуюцца мільёнымі накладамі.

Было б добра, каб гэта традыцыя была працягнута ў наступныя гады і з'явіліся філатэлістычныя мініяцюры, прысвечаныя ўсім вядомым абарончым збудаванням краіны, уключаным у дзяржпраграму «Замкі Беларусі», сказаў старшыня ТБМ.

Паводле яго слоў, гэта праграма на 2012-2018 гады, што знаходзіцца на зацвярджэнні ва ўрадзе, прадугледжвае аднаўленне, кансервацыю, добраўпарадкаванне і ўключэнне ў сферу турызму 38 помнікаў беларускага абарончага дойлідства.

*Марат Гаравы, БелаПАН.*

# Майскі фэст у Гняздзілаве

■ **Кс. Віктар Місевіч**
Фота: **Паліна Хмяльніцкая**

Няшмат хто ведае, што, апрача вядомых парафій, у Докшыцкім дэканаце ёсць яшчэ іншыя святыя месцы. Яны не ляжаць на ростанях дарог. Паўз іх не імкнуцца чэргі аўтамабіляў. Але ў гэтых асвечаных храмах адпраўляецца св. Імша і збіраюцца на малітву людзі.

Гняздзілава – адно з такіх месцаў. Гэта звычайная беларуская вёска на захад ад Докшыц. 1 мая там сабраліся вернікі з дэканата, каб прыняць удзел у парафіяльным фэсце. Капліца Божай Міласэрнасці невялікая. Таму набажэнствы прайшлі вонкі святыні.

Святары з вернікамі маліліся Вяночкам да Божай Міласэрнасці, Літаніяй да Найсвяцейшай Марыі Панны і атрымалі ўрачыстае благаслаўленне Найсвяцейшым Сакрамэнтам. Св. Імшу цэлебравалі кс. Віктар Місевіч з Бягомля і айцы-капуцыны з Докшыц: а. Марэк Пасют і а. Віталь Бандаронак. Божае слова прамовіў кс. Віктар Місевіч. Ён засяродзіўся над ідэяй Божай Міласэрнасці на старонках Св. Пісання і ў вучэнні Касцёла. Святар таксама падкрэсліў асаблівасць фэсту. Менавіта ў гэты дзень у Рыме слуга Божы Ян Павел II быў аб'яўлены благаслаўлёным. Пра такую значную падзею нагадвала дэкарацыя перад гняздзілаўскай капліцай.

Пасля малітваў і неабходных аб'яваў брат Войтэк запрасіў усіх да вогнішча і пачаставаў гарачым супам. Шмат было радасці і для дзяцей. Яны ахвотна смажылі на агні смачныя каўбаскі. Свята ў Гняздзілаве сапраўды адбылося на славу Божую і для дабра людзей.

# Штраф у 20 базавых велічынь – добры стымул для ўборкі тэрыторыі

■ А.В. Протас ,
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

Вясновы нераст рыбы – гарачая пара для супрацоўнікаў Глыбоцкай міжраённай інспекцыі. Неабходна ажыццявіць кантроль на велізарнай тэрыторыі двух раёнаў, дзе размешчана мноства азёр, рэк і іншых вадаёмаў, у тым ліку і рыбгас «Навінкі». Прырода шчодра ўзнагародзіла нашу зямлю вадаёмамі, лясамі, жывёльным светам, але ўсё гэта багацце трэба захаваць.

Супрацоўнікі міжрайінспекцыі штодня кантралююць тэрыторыю раёна, перарываючы спробы браканьерства. На жаль, рэдкі дзень выдаецца, каб не затрымоўвалі парушальнікаў природаахоўнага заканадаўства.

Так, 25 красавіка 2011 года каля 15 гадзін супрацоўнікам Глыбоцкай міжрайінспекцыі паступіла паведамленне пра тое, што на рацэ Дабрылаўка паблізу в. Мікуліна двое грамадзян ажыццяўляюць незаконную здабычу рыбы пры дапамозе бродніка. Выбылая рэйдавая група сумесна з прадстаўнікамі раённага таварыства паляўнічых і рыбаловаў затрымалі жыхароў в. Бабічы Глыбоцкага раёна. Два дарослыя лайдакі ў працоўны дзень замест таго, каб працаваць, вырашылі паесці юшкі, а вынік незаконнай рыбалкі – крымінальная справа, бо шкода, прычыненая прыродзе ў нераставы перыяд, склала амаль 2 млн. рублёў.

28 красавіка 2011 года каля 21 гадзіны супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на возеры Вялікая Пліса затрыманы мясцовы жыхар, які пры дапамозе браканьерскіх сетак налавіў амаль 12 кг рознай рыбы. Шкода, прычыненая природзе, склала каля 3 млн. рублёў. Матэрыялы накіраваны ў Глыбоцкі РАУС для дачы прававой адзнакі дзеянням парушальніка. Не называючы прозвішча парушальніка, хацелася б адзначыць, што грамадзянін па родзе сваёй прафесійнай дзейнасці павінен быў пэўным чынам гэтак жа весці барацьбу з парушальнікамі природаахоўнага заканадаўства, але сам яго парушаў.

З 1 траўня адкрыўся рыбалоўны сезон у рыбгасе «Навінкі» Пастаўскага раёна, дзе для грамадзян арганізавана платнае аматарскае рыбалоўства, але акрамя галаўнога болю, кіраўніцтва рыбгаса ад платнага рыбалоўства нічога больш не атрымлівае. Шматлікія грамадзяне лічаць, што калі заплацiў грошы, то можна лавіць, хоць сто кг рыбы, больш нічога плаціць не трэба, а ўсталяваныя правілы рыбалоўства іх не датычаць, асобныя прыязджаюць, каб пасябраваць з «бахусам», бог вінаробства мацнейшы за жаданне палавіць рыбу. Потым, праспаўшыся, абураюцца: я нічога не злавіў, вярніце мне выдаткаваныя грошы.

Толькі за адзін дзень рыбалоўства на сажалках супрацоўнікі міжрайінспекцыі вярнулі рыбгасу больш за 70 кг выкрадзенай рыбы, а таксама больш за 200 кг, якія грамадзяне вылавілі звыш нормы і спрабавалі звезці, не заплаціўшы за лішнюю вылаўленую вагу. Усё гэта – грошы работнікаў рыбгаса, іх заработная плата.

Пакінутае пасля рыбалоўства смецце – гэта асобная тэма. Цэлыя горы смецця пакідаюць пасля сябе так званыя рыбаловы-аматары! Я заплаціў грошы, значыць, магу рабіць усё што заўгодна. Супрацоўнікі міжрайінспекцыі папярэджваюць такіх горарыбаловаў, што штраф за выкід смецця ніхто не адмяняў, а штраф у 20 базaвых велічынь – добры стымул для ўборкі тэрыторыі.

Пра ўсе парушэнні природаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведамляць па тэлефонах Глыбоцкай міжраённай інспекцыі : «гарачая лінія»-8-02156-28670 (кругласутачна), маб. тэл. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Лоўля рыбы ў ахоўных зонах ліній электраперадач – небяспечна для жыцця

■ Ішуцін А.Н.,
*інспектар Глыбоцкай інспекцыі Энерганагляду.*

Вось і наступіў час, калі можна ўзяць вуду ў рукі і пайсці правесці пару гадзін на беразе возера. Закінуць снасці. Ужо злоўлена першая рыба. Незвычайна актыўны клёў. Хацелася б працягваць і працягваць развіваць гэту прыгожую гісторыю, але трэба нагадаць пра смяротную небяспеку гэтага прыемнага баўлення часу ў ахоўных зонах ліній электраперадач. Не сакрэт, што па берагах і ў непасрэднай блізкасці ад іх праходзяць лініі электраперадач. А як вядома, дзейнасць любога роду ў ахоўных зонах ліній электраперадач забаронена і можа прывесці да трагічных наступстваў. Для прадухілення няшчасных выпадкаў у небяспечных месцах усталёўваюцца папераджальныя плакаты «Ахоўная зона ЛЭП. Небяспечна! Рыбная лоўля забаронена».


р. Маргва ў Мосары

07.09.2010 г. у ахоўнай зоне паветранай лініі электраперадач 110 кв «ГСМ-330-Заходняя №3» на беразе вадаёма быў выяўлены пацярпелы Ш. без прыкмет жыцця. На месцы здарэння былі выяўлены аплаўленыя і разбураныя рэшткі вудзільна шклапластыкавай вуды завадского вырабу, аплаўленае і абгарэлае складанае партатыўнае крэсла, над месцам здарэння на праводзе фазы «А» бачныя сляды аплаўлення і прыгарэўшыя часткі вудзільна.

Падчас расследавання ўсталявана, што пацярпелы пры закідзе вуды крануў провад фазы «А» і ў выніку перакрыцця быў смяротна траўміраваны электрычным токам.

У месцы здарэння ўсталяваны папераджальны плакат пра забарону лоўлі рыбы ў месцы мінання ўчастку ВЛ праз вадаём.

**Для недапушчэння падобных выпадкаў трэба ведаць, што**

- рыбная лоўля ў ахоўных зонах ліній электраперадач строга забаронена.
- паражэнне электрычным токам можа адбыцца не толькі ў выніку дакранання да токаводных частак (правадоў ЛЭП), але і пры набліжэнні да іх на недапушчальную адлегласць.

Энерганагляд папярэджвае, што ў адпаведнасці з Кодэксам Рэспублікі Беларусь пра адміністрацыйныя правапарушэнні па артыкуле 20.3 "Парушэнне правіл аховы электрычных сетак" цягне накладанне штрафу ў памеры да 50 базавых велічынь, а на юрыдычную асобу – да 500 базавых велічынь.

# У Докшыцкім раёне закопваюць падмуркі разбураных хат

■ Кастусь Шыталь

Многія беларускія вёскі пакідаюць пасля сябе сумнае ўражанне. Там, дзе раней вiравала жыццё, можна пабачыць занядад і запусценне. Выміраюць невялікія вёскі, а ў аграгарадках застаюцца пераважна тыя, каму не пашанцавала выехаць у горад ці проста гультаі і п'яніцы.

Праязджаючы праз вёску Вянюціна, што недалёка ад Сітцаў, давялося пабачыць, як закопваюць падмуркі разбураных хат. Докшыцкія меліяратары выкопваюць экскаватарам ямы, у якія будуць закапаныя рэшткі апусцелых дамоў. Усяго ў Вянюціне выкапана шэсць такіх ямаў.

Мясцовыя ўлады нервова ўспрынялі маё жаданне напісаць пра гэтую вёску. У сельсавеце абураліся, чаму гэта я не спытаў іх дазволу на тое, каб фатаграфаваць у вёсцы, ды адмовіліся са мной размаўляць.

У 1930 годзе ў вёсцы Вянюціна жылі 116 чалавек, у адналменным фальварку – 48. Зараз, распавяла жыхарка вёскі Станіслава, у Вянюціне засталося 9 жыхароў – усе пенсіянеры. Праз нейкі дзясятак год у вёсцы можа не застацца ніводнага жывога чалавека. А праграма "Чыстыя палі" не пакіне ад Вянюціна і следу…



# «Ахова птушак Бацькаўшчыны» падрыхтавала рэкамендацыі па прываблiванні салаўёў на прысядзібныя ўчасткі, у сады і паркі

**Грамадская арганізацыя «Ахова птушак Бацькаўшчыны» (АПБ) падрыхтавала рэкамендацыі па прываблiванні салаўёў на прысядзібныя ўчасткі, сады і паркі, а таксама па захаванні салаўіных месцаў.**

Як паведаміў БелаПАН спецыяліст па экалагічнай адукацыі АПБ Руслан Шайкін, салаўі, якія пяюць ва ультрагукавым дыяпазоне, не толькі прыносяць задавальненне сваімі песнямі, але і добра ўплываюць на здароўе людзей. Апрача таго, салаўі, адчувальныя да зменаў знешняга асяроддзя, могуць выступаць своеасаблівым індыкатарам экалагічнай паспяховасці тэрыторыі. У сувязі з дзейнасцю чалавека, ва ўсёй Еўропе назіраецца тэндэнцыя да скарачэння колькасці гэтага віду птушак.

Як зазначыў Шайкін, рэкамендацыі па прыцягненні салаўёў падрыхтаваныя ўпершыню.

Яны распрацаваныя пад кіраўніцтвам знаўцы спеўных птушак, супрацоўніка Рэспубліканскага экалагічнага цэнтра дзяцей і юнацтва Віталя Яковіча і заснаваныя на біялагічных асаблівасцях салаўя.

Шайкін паведаміў, што лягчэй за ўсё прыцягнуць салаўя на прысядзібны ўчастак, які знаходзіцца ў нізіне. Салавей аддае перавагу цяністым забалочаным месцам. На дачным участку ён найбольш ахвотна паселіцца сярод кустоў, напрыклад, каліны ці маліны, якія знаходзяцца ў цені дрэў. Поўны тэкст рэкамендацый размешчаны на сайце АПБ www.ptushki.org.

Паводле слоў Шайкіна, нават калі не атрымаецца прыцягнуць салаўя, участак хутчэй за ўсё аблюбуюць іншыя спяваючыя птушкі: балотная і садовая чарацянкі, чорнагаловая валасянка, заранка.

Як паведаміў спецыяліст, традыцыйна з 14 мая ў Мінску і іншых гарадах будзе праходзіць улік салаўёў. Падчас гэтай акцыі гарадскім жыхарам прапануецца паведаміць пра месцазнаходжанне спеўнай птушкі ў офіс АПБ. Па выніках улікаў складаецца салаўіная карта Мінска.

У маі АПБ таксама адкрыеназіральныя пляцоўкі за салаўямі ў Батанічным садзе і Мінскім заапарку. Апрача таго, па запытах аматараў прыроды супрацоўнікі АПБ гатовы арганізаваць экскурсіі па салаўіных месцах сталіцы, падчас якіх ахвотныя змогуць азнаёміцца і са спевамі іншых птушак.

Паводле слоў Шайкіна, усяго ў Беларусі налічваецца каля 100 тыс. пар салаўёў.

*Анастасія Янушэўская, БелаПАН.*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

16 – 22 траўня 2011 г.



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Вырazна назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 16 траўня



**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00** (с сурдопереводом), **13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 00.20** Новости.
**06.05, 07.10, 08.15** «Доброе утро, Беларусь!»
**07.05, 08.05** Зона Х. Дорожные новости.
**07.30, 08.25, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** В мире моторов.
**09.10 "Маргоша"**
**10.05** Женское ток-шоу «Жизнь как жизнь». «Мы поступаем в ВУЗ».
**11.05 "Маруся. Возвращение"**
**12.10 "Фанфан-Тюльпан"**
**14.05** «OFF STAGE LIFE»
**14.15** Синематека.
**15.20, 19.20** Новости региона.
**15.40** Требуется.
**16.05** Nota Bene.
**16.30 "Маршрут милосердия"**
**17.25 "Маруся. Возвращение"**
**18.25** «Окно в Европу».
**18.50, 01.55** «Зона Х».
**19.30** «Арена».
**19.55 "Маргоша"**
**21.00** «Панорама».
**21.45** «Командировка».
**22.00 "Военный ныряльщик"**. Армейская драма (США).
**00.30 Доктор Хаус4**
**01.25** «Проверка слухов».
**02.00** День спорта.



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Смак».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Любительница частного сыска Даша Васильева»**
**12.10** «Детективы».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** Тележурнал «Союз».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20** «Обратный отсчет». «Прием по-белорусски. За кулисами».
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Открытый формат».
**22.10** Билл Мюррэй в фильме **«Сломанные цветы»**.
**00.10 «Крем»**
**01.05-01.35** Ночные новости.



**06.35 "Универ"**
**07.00** «ЛАДное утро».
**08.00** Телебарометр.
**08.05 "Ты моя жизнь"**
**09.05** Комедия **«Декан Спенли»**. (Новая Зеландия-Великобритания).
**10.55** Пра мастацтва.
**11.25** Школа ремонта.
**12.20** «Час суда. Дела семейные».
**13.25 "Деревенский романс"**. 1-я серия.
**14.25** Конкурс-викторина «Дети нового поколения». Одиннадцатые классы. Вторая игра.
**15.30** Мультсериал **"Семейка пиратов"**
**15.55** Внеклассный час.
**16.10 "Кулинария для детей"**. Мультфильм.
**16.25** «Навіны надвор'я».
**16.55** Премьера. Военный боевик **"Паршивые овцы"** (Россия-Украина). 1-я серия.
**18.00 "Ты моя жизнь"**
**19.05** «Хали-гали». Скетч-шоу.
**19.35 "Государственная граница"**. Фильм первый «Мы наш, мы новый…» («Беларусьфильм»). 1-я серия.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** КЕНО.
**21.25** Белорусское времечко.
**22: 30 "Интерны"**
**23.10 "Универ"**
**23.50** Футбол. Чемпионат Англии. Премьер-лига. Обзор тура.
**00.45** Военный боевик **"Паршивые овцы"** (Россия-Украина). 1-я серия.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. «.
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро. «.
**08.35** «Неделя».
**09.30** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Держи меня крепче». Теленовелла. Заключительная серия.
**11.40** «Званый ужин».
**12.35** «Фантастика под грифом «Секретно»: «Тайные знаки судьбы».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Я - путешественник».
**14.20** Концерт Михаила Задорнова.
**16.00** «КультУРА!».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 "Огонь любви"**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25**«Кинопонедельник»: **«ЧЕРТА»**. Россия, 2009 г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Кино»: **«ШИЗОФРЕНИЯ»**.



**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:30 "Грамадзянін Гавэл"**
**9:30** «CIA: таемныя войны» : фільм 2, «Страчаныя ілюзіі»
**10:25** ПраСвет
**10:50** Моўнік
**11:00** МакраФон: «Рок-карона–2010», ч. 1
**11:30** Эксперт
**12:00** Аб'ектыў
**12:05** "Грамадзянін Гавэл"
**14:05** «CIA: таемныя войны»: фільм 2, «Страчаныя ілюзіі»
**14:55** ПраСвет
**15:20** Басанож па свеце
**15:50** Моўнік
**16:00** МакраФон: «Рок-карона–2010»: ч. 1
**16:30** Эксперт
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 "Эміль з Лёнэбэр'і"**: 9 сер.
**17:30 "Час гонару"**:29 с
**18:20** Хто ёсць кім?: «Вольга Іпатава»
**18:35** Прэс-экспрэс
**18:55** «ГМА. Праграсіўныя ці катастрофа?», дак. фільм
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Гарачы каментар
**19:45** Калыханка для самых маленькіх
**19:55** Еўропа сёння
**20:25** Гісторыя пад знакам Пагоні
**20:30** «Чорны палітык у Расеі»
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Рэмарка
**21:50** "Грамадзянін Гавэл"
**23:50** Аб'ектыў
**0:10** Гарачы каментар

